стачы вугальля спынілася ўся прамышленнасць і таргоўля.

У Грэціі многа ешчэ укрытаго аружжа—стрэльб. Пакуль яго не здадуць на зборных пунктах саюзьнікам, блокады ня знімуць.

## Разрыў між Амэрыкай і Нямеччынай.

БЭРЛІН. Рэўтэр даносіць, быццым нямецкае правіцельство звярнулося да Злучаных Штатоў с прэдлажэньнем зрабіць крокі, каб абмінуць вайну. Гэта — чыстая выдумка. Яна аткінута і амэрыканскім статс-сэкрэтаром Лянсінгам у Вашынгтоне.

НЬЮ ІОРК. Статс-сэкрэтар да заграничных спраў, Лянсінг, сказаў на банкеці: „Мы не павінны зачыняць вачэй перад тым, што мы—на перадодні вайны. Але ўсё ешчэ ёсць надзея, што старонцы ўдасцца абмінуць ваеннае выступленьне. Правіцельство гэтак сама жадае і дабіваецца захаваньня міра“.

НЬ'Ю-ІОРК. Амэрыканскіе параходы «Orlean» і «Rochester» паехалі навыперадкі цераз акіан, бо кожын з іх жадае для сябе чэсьці першым папасьці ў небаспечны пояс.

НЬ'Ю-ІОРК. «Herald» пішэ, што Брайян напружае ўсе сілы, каб не дапусьціць аканчацельнаго разрыва між Амэрыкай і Нямеччынай.

ЛЮГАНО. „Secolo“ даносіць з Вашынгтону, што ў Амэрыцэ ў гадаўшчыну Лінкольна ўсюды адбываліся мітынгі за мір.

### Фіаско Вільсона.

АФІНЫ. Грэцкае правіцельство паслало ў Амэрыку ноту, кажучы ў ей, што Грэція хочэ і надалей дзержацца палітыкі поўнай нэутральнасьці, асабліва ў тых варунках, у якіх яна цяпер апынулася.

БЭРЛІН. Паводлуг вестак з Аргентыны, афіцыоз тамтэйшаго правіцельства «Epoka» высказаўся за тое, каб аткінуць прэдлажэньне Вільсона і дзержацца поўнай нэутральнасьці. Гэтак-жэ заяўляюць газэты «Pensa» і «Razon».

РІО-ДЭ-ЖАНЭЙРО. Як даносяць, правіцельство Бразыліі аткіне прызыў Амэрыкі пайсьці па яе сьлядох проці Нямеччыны і агранічыцца толькі пратэстам проці падводнай вайны.

### БЛОКАДА АНГЛІІ.

ЖЭНЕВА. «Guerre Sociale» пішэ с прычыны блокады Англіі:

„Калі Нямеччына разаб'е панаваньне Англіі на моры, дык Англія будзе прымушэна адрачыся ад сваей сусьветнай палітыкі. Цяпер, значыць, вайна йдзе ня толькі для Нямеччыны, але і для Англіі не на жыцьцё, а на сьмерць“.

ЛОНДОН. „Sundy Times“ пішэ:

„Нямеччына шалела ўжо цэлы тыдзень. Яе падводные лодкі тапілі кожын параход, каторы мог станавіць мэту для іх торпэд. Трэба прыпомніць, што, калі пачаўся гэты марскі разбой, ён меў удачу толькі за першые дні. У далейшые дні, калі спосабы абароны былі палепшэны, ён быў ужо менш удачны“.

БЭРЛІН. Адна вярнуўшаяся падводная лодка затапіла ў Атлянтыцкім акіане 10 караблёў ёмкасьцю 19.000 тонн. Паводлуг новых вестак, затоплены ешчэ 6 параходаў і адзін парусны карабель разам ёмкасьцю 25.000 тонн.

ПАРЫЖ. «Figaro» друкуе спіс затопленых ад 1 да 10 лютаго караблёў: 58 саюзьніцкіх караблёў і 32 нэутральные, ёмкасьцю разам 176,925 тонн. „Figaro“ спадзяецца, што падводная вайна далей гэтак востра вясьціся ня будзе.

АМСТЭРДАМ. Пасажырскі параход «Afric», 11.999 тонн, затоплен.

## Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

**З Вільні і Віленскай губэрні.**

### Табор для ваенна-палонных I, Tr. Ueb. Pl. Münsingen.

Янкунец Іван, Гуры.
Янкоўскі Язэп, Рамотаўка.
Юхневіч Констанцін, Радзеўчэно.
Юхневіч Адам, Субоціно.
Кашлей Язэп, Ліда.
Крушын Антон, Судэрвянск.
Капач Язэп, Шылакі.
Кондратовіч Франц, Медзісаны.
Майсей Станіслаў, Зеневічы.
Мацкун Міхаіл, Межырэчье.
Нехмэдовіч Язэп, Карповічы.
Алюшкевіч Язэп, Навіцкі.
Пешканоў Іван, Понінішан.
Роўба Яраслаў, Лебеда.
Рынсэвіч Антон, Усцішкі.
Сыроквашэў Грыгор, Вільня.
Сьнегір Станіслаў, Белая.
Забава Андрэй, Вердачы.
Чэрыца Франц, Вільня.
Вуль Констанцін, Падворні.
Зеновіч Броніслаў, Зохвар'е.
Зеніч Вінцэнты, Зінкішкі.
Бадаповскі Майсей, Вільня.
Больбэр Гірш, „
Гарбэр Фром, Кошэдары.
Канторовіч Лейба, Зарцы.
Раманоў Шолом, Ротніца.
Рубін Ізраэль, Радашковічы.

### Табор для ваенна-палонных Müncheberg (Mark).

Антуль Сямён, Бутведунцы.
Базыль Вінцэнты, Базылі.
Эмельянчык Іван, Парэчаны.
Ардзерэвіч Міхаіл, Ліона.
Дзергіца Язэп, Сьверыды.
Дрыкевіч Язэп, Павілянцы.
Дубовіч Болеслаў, Чэбрын.
Горностай Міхаіл, Кульбакі.
Юшкевіч Вінцэнты, Сабачкі.
Кошыхоўскі Фэлікс, Лагоды.
Крыўко Міхаіл, Вільня.
Кудляк Тэофіль, „
Мышкоўскі Іван, Сэнканы.
Нацэвіч Констанцін, Цацкі.
Осрудка Андрэй, Цюцюлоў.
Пашкоўскі Сьцепан, Ганчыцы.
Петраш Антон, Ручыцы.
Пушынскі Антон, Зарэчаны.
Залескі Ізыдор, Залечына.
Савіцкі Адам Забалоць.
Смольскі Валер'ян, Масевічы.
Сушчынскі Ян, Вільня.
Тамашэвіч Андрэй, „
Урбановіч Язэп, Остраона.
Белоусоў Віктар, Галішчына.
Міляўка Васіль, Карандычы.
Міхалевіч Владзімір, Бондары.
Мішук Сымон, Зарудзічы.
Забело Ігнат, Ліда.
Скірка Іван, Война.
Віхарэў Іларыон, Белянікі.
Янутан Александар, Сьвір.
Патэнт Арон, Глыбокае.
Валюліс Адольф, Буйтуні.

### Kriegsgefangenen-Lazarett Sprottau.

**A Kranke.**

Гайлён Людвік, Сьвенцяны.
Гродніцкі Эдвард, Вільня.
Кірплюк Станіслаў, „
Курцын Іван, Довэйсе.
Мацеевіч Ян, Грыбішкі.
Ровчын Язэп, Вільня.
Саковіч Броніслаў, Лойцы.
Сальмоновіч Кароль, Вільня.
Шэлькоўскі Робэрт, „
Семішэўскі Язэп, „
Сінкевіч Антон, Трокі.
Сушчэнко Іван, Вільня.
Тэціаноў Станіслаў, „
Васілеўскі Броніслаў, Падпіранцоў
Харлюковіч Амільян, Ашмянск.
Мітко Аляксей, Маркова.

**B. Personal.**

Савіцкі Аполінары, Вільня.

(Далей будзе).

## АБВЕСТКІ.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар В. Ластоўскі.